

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№186-187 (699-700) 25-27 верасня 1993 г. Субота-панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501547 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**В Республику Беларусь прибыла с визитом делегация Турции во главе с генеральным секретарем Великого национального собрания этой страны господином Муаммером Телли.**

В программе пребывания делегации — встречи в Секретариате Верховного Совета, в парламентских комиссиях.

❑

**Абхазские формирования предприняли вчера утром широкомасштабное наступление на столицу Абхазии — Сухуми, сообщили в пресс-центре Министерства обороны Грузии.**

Город атакован со всех сторон. К 10.00 абхазцы прорвались в жилые кварталы на северной окраине города. Сухуми беспрерывно подвергается артиллерийскому обстрелу.

❑

**В Ингушетии, в населенных пунктах Карабулак и Троицкое, указом президента республики Руслана Аушева введено чрезвычайное положение.**

### Новости из Москвы

**Специальный корреспондент "Народной газеты" передает из "горячей точки" — "Белого дома"**

**Похоже, в работе десятого чрезвычайного съезда бывших российских депутатов, который открылся два дня назад, вчера неожиданно наступил критический момент.**

На утреннем заседании, напоминающем митинг ФНС, один из депутатов огласил ультиматум Министерства обороны за подписью генерала Кобеца. Четыре кратких пункта документа предписывали в течение 24 часов закрыть съезд, распустить парламент, разоружить незаконные вооруженные формирования Союза офицеров, которыми нашпигован весь "Белый дом", и отдать в руки правосудия организаторов нападения на штаб ОВС СНГ, в результате которого пролилась невинная кровь — погибли два человека.

Ультиматум поверг депутатов в состояние шока. Видя паническое состояние своей команды, спикер объявил перерыв на полчаса раньше срока. А потом случилось нечто невообразимое: Р.Хасбулатова обозвали "предателем народа". И только из-за того, что он по предложению некоторых "трезвых" депутатов отдал распоряжение снять со стен "Белого дома" серпомолоткастые флаги и заменить их российскими. Но толпа митингующих эфэнэсовцев не позволила административной службе парламента дотронуться до "священных полотен Родины".

**Леонид ФАДЕЕВ.**

❑

Вице-президент Александр Руцкой, называющий себя "исполняющим обязанности президента РФ", заявил, что не будет выставлять свою кандидатуру на пост президента в случае проведения досрочных президентских выборов.

❑

Государственный секретарь США Уоррен Кристофер, выступая в сенатском юридическом комитете, заявил, что воодушевлен решением президента Бориса Ельцина провести как парламентские, так и президентские выборы.

❑

Министр обороны России Павел Грачев предупредил, что в случае новых нападений на военные объекты будет открыт огонь на поражение.

❑

Как стало известно из компетентных источников, минувшей ночью при попытке проникнуть на один из объектов Минобороны в Москве арестован руководитель так называемого Союза офицеров подполковник Станислав Терехов.

По признанию представителей оппозиции, он является одним из организаторов вооруженных групп, противостоящих российским властям. Один из лидеров оппозиции Виктор Анпилов заявил, что нападение в четверг вечером на штаб ОВС СНГ было осуществлено группой Терехова.

❑

Президент России Борис Ельцин подписал вчера указ "О формировании Центральной избирательной комиссии по выборам в Государственную думу Федерального собрания Российской Федерации".

### За что убили Д.Арцименю?

**В центре внимания общественности по-прежнему находится убийство председателя Гродненского облисполкома Д.Арцимени. Появляются новые версии.**

В корреспонденции В.Глода из Белинформа, переданной вчера из Москвы, говорится в частности:

В четверг в 12 часов дня самолет "ТУ-134" с белорусской делегацией, которую возглавляют Станислав Шушкевич и Вячеслав Кебич, взял курс на Гродно. Руководитель Верховного Совета, руководитель правительства, другие члены делегации распрощались с народным депутатом Дмитрием Арцименей.

Мы, журналисты, в траурной церемонии участия не принимали. Но когда воздушный лайнер взял курс на Москву, один из членов делегации рассказал нам:

— Жена Арцимени настаивает на том, что это убийство политическое. Так это или нет, выяснит только следствие. У убитого найдена большая сумма долларов. Возможно, этот факт выведет на какой-нибудь след.

### Спорт-экспресс

В первенстве МХЛ хоккеисты минского "Тивали" проиграли "Авангарду" из Омска — 1:6.

❑

Решение избрать австралийский город Сидней местом проведения летних Олимпийских игр 2000 года принято на 101-й сессии Международного олимпийского комитета.

Представители Сиднея объявили о том, что национальным олимпийским комитетам не придется тратить деньги на проезд спортсменов и делегаций.

Помимо этого сиднейцы выступили с еще одной беспрецедентной инициативой — они впервые предложили каждому из спортсменов пригласить в олимпийский Сидней двух родственников или друзей, полностью оплачивая их проживание.

### "Фантомасов" было восемь...

**На автостраде Минск— Вильнюс примерно в 10 км от пограничного поста в Мядининкае совершено вооруженное нападение на пассажирский автобус.**

Ночью автобус остановил мужчина в форме литовского полицейского. Когда шофер открыл двери, в салон ворвалась группа из восьми вооруженных человек с чулками на головах. Одеты они были в спортивные костюмы. Бандиты избили пассажиров, отобрали у них около 10 тысяч долларов. Это одно из крупнейших и особенно циничных ограблений в Литве за последнее время.

**Андрей КОРСАК.**

### Облюбовали "союзники" Беларусь, или Отчего не съездить, если приглашают?

**Сердечный прием на недавнем Конгрессе народа Беларуси пришелся, вероятно, по душе знаменитым реставраторам СССР Бабурину и Алкснису.**

Уже 1 октября эти российские депутаты намереваются вновь побывать на гостеприимной земле соседнего государства, привычно поругать С.Шушкевича. На сей раз "свадебных генералов" примет Витебск, где намечен форум бывших воинов-"афганцев" из России, Беларуси и Украины.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

## Шаноўныя чытачы!

Выбачайце, што не ўдалося выпусціць у свет учарашні нумар газеты. Ён быў своечасова падрыхтаваны рэдакцыяй да друку, але...

Справа ў тым, што "Народная газета", як і іншыя выданні, перажывае цяпер вялікія цяжкасці з паперай, на якой друкуецца тыраж. Штодзень даводзіцца прыкладаць значныя высілкі, каб "наскубці" яе на чарговы нумар. На ўчарашні, здавалася б, знайшлі (дапамаглі калегі з "Известий", за што ім шчыры дзякуй). Аднак у апошні момант нам з друкарні паведамілі: паступіла каманда "Народную газету" не друкаваць, паколькі не пагашана ранейшая запазычанасць па паперы. Не будзем пераказваць усе перыпетыі нашых перамоў з кіраўнікамі выдавецтва і больш высокімі службовымі асобамі. "Вынік" іх вядомы: газета ў свет не выйшла, хоць магчымасць друкаваць тыраж, мы лічым, была.

Праўда, мы дамагліся, каб сённяшні нумар выйшаў павялічаным аб'ёмам. І спадзяёмся да канца года выканаць свае абавязкі цалкам — выпусціць 250 нумароў.

**Рэдакцыя "Народнай газеты".**

*З прыёмнай "Народнай газеты". Тэл. 29-60-86.*

## Гандляры суверэнітэтам Беларусі зарабілі нямала "цёплых кампліментаў"

— Ало, рэдакцыя? Тэлефануе мінчанін Сяржук Васіленка. Выказваюся адначасова і ад імя сваіх бацькоў. Мы проста слоў не знаходзім ад абурэння, прачытаўшы зварот групы пракамуністычна настроеных дзеячаў Беларусі да кіраўніцтва былых рэспублік СССР. Як можна так бессаромна гандляваць суверэнітэтам рэспублікі? Думаю, што "Народная газета" не прамаўчыць, рашуча выкажацца ў абарону нашай незалежнасці!

Падобных званкоў у гэтыя дні нямала. Чытачы выказваюць падтрымку пазіцыі нацыянальна-дэмакратычных сіл рэспублікі, Станіслава Шушкевіча, якія рашуча выступілі супраць рэваншысцкіх намераў тых, хто, спекулюючы на натуральным імкненні народаў былога Саюза да ўмацавання добрасуседскіх стасункаў, марыць пра рэанімацыю імперыі. Шчыра кажучы, з вуснаў асобных чытачоў гучалі і надзвычай моцныя выразы па адрасу гандляроў нашым суверэнітэтам... Карацей, многія простыя грамадзяне адразу ж раскусілі сэнс дэмагагічнай, крывадушнай рыторыкі аўтараў звароту. І тыя, мяркуючы па ўсім, застануцца ля разбітых ночваў.

## Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь

Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры напамінае, што прыём работ на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1994 года праводзіцца да 1 лютага 1994 г.

Работы прадстаўляюцца ў камітэт у адпаведнасці з Палажэннем аб прэміях, зацверджаным пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 мая 1992 года нумар 1671-XII.

Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем работ і афармленнем прадстаўлення, звяртацца ў камітэт, які змяшчаецца ў Доме літаратара: 220600, Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакой 304 (III паверх), тэлефоны 36-50-69, 36-90-76, адказны сакратар Ул. Юрэвіч.

*Не все так плохо*

### Конвертор от конверсии

**Первое мирное изделие с помощью оборудования, работавшего прежде "на войну", выпущено новополоцким заводом "Измеритель".**

Детище конверсии называется похожим на нее словом — "конвертор", а предназначено для антенн спутникового телевидения.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

### Голубой экран. Свой

**В скором времени в Костюковичском районе будет свое телевидение.**

Пробные передачи уже прошли. Телеканал "Вытоки" учредил райисполком.

**Николай ЗАПОЛЬСКИЙ.**



## ЗАЯВА

### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Пачуццё трывогі і заклапочанасці ў людзей добрай волі выклікаюць падзеі ў Расійскай Федэрацыі.

Беларусы і расіяне звязаны даўнімі дружалюбнымі сувязямі, супрацоўніцтвам і ўзаемадапамогай, што не дае нам права заставацца абыякавымі да падзей, якія адбываюцца ў Расіі.

Прызнаючы непахіснымі прынцыпамі міждзяржаўных адносін павагу суверэнітэту і неўмяшанне ва ўнутраныя справы адзін другога, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь выражае надзею, што Расія знойдзе шлях для пераадолення ўзнікшых супярэчнасцей у інтарэсах міру і спакою на аснове Канстытуцыі і заканадаўства.

**22 верасня 1993 г.**

*г.Мінск.*

## ЗАЯВА

### апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь аб падзеях у Расійскай Федэрацыі і дачыненнях у Беларусі

Сітуацыя, якая склалася ў Расійскай Федэрацыі, мае пэўнае падабенства са становішчам на Беларусі. У Расіі гэтак жа, як і ў Беларусі, захаваліся старыя камуністычныя структуры ўлады, выбраныя яшчэ ў СССР, у іншай дзяржаве з іншымі мэтамі і функцыямі. Гэтыя органы страцілі сваю легітымнасць, але прадаўжаюць дзейнічаць і існаваць.

Гэтак жа, як і ў Беларусі, Вярхоўны Савет Расіі двойчы нелегітымны: і як старая савецкая структура, і як выбарны орган, які незаконна забараніў рэферэндум аб нечарговых выбарах. Як і ў Беларусі, Вярхоўны Савет Расіі ператварыўся ў антынародны сход камуністычнай рэакцыі і наменклатуры, дзейнасць якога накіравана на разбурэнне эканомікі, на тармажэнне рэформаў і знішчэнне незалежнасці суверэнных дзяржаў. Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета ў Расіі (Хасбулатаў, Руцкі, Бабурын і інш.) гэтак жа, як пракамуністычныя дэпутаты ў Беларусі, адкрыта заяўляюць аб сваіх імкненнях аднавіць СССР і імперскі абшар. Сувязі і ўзгодненасць у дзеяннях беларускай і расійскай камуністычнай рэакцыі відавочныя.

У гэтай сітуацыі, калі орган улады, які страціў права на прадстаўніцтва, узурпіраваў уладу і праводзіць антыдзяржаўную палітыку, народ і законна выбраныя ім інстытуты ўлады маюць права на роспуск гэтага нелегітымнага органа і правядзенне ўсеагульных выбараў.

Народ, грамадства не павінны рабіцца заложнікамі аджылых структур і законаў, выпрабоўваць на сабе вынікі авантурнай палітыкі.

Апазіцыя Беларускага народнага фронту лічыць поўнасцю апраўданымі і правамоцнымі дзеянні прэзідэнта Расіі Ельцына па роспуску Вярхоўнага Савета і прызначэнню нечарговых выбараў у новы прафесійна дзеючы парламент Расійскай Федэрацыі.

Мы лічым, што падзеі ў Расіі ёсць добры прыклад для Беларусі. Нечарговыя выбары, як заяўлена Вярхоўным Саветам, павінны адбыцца ў нас вясной 1994 г. Гэтыя выбары, калі трымацца закона і права, могуць прайсці толькі на тых умовах, за якія законна выказаліся 442 тысячы грамадзян Рэспублікі Беларусь, што паставілі свае подпісы за рэферэндум.

Існаванне старых структур улады на Беларусі, у Расіі, на Украіне і ў іншых месцах небяспечнае для грамадства. Некампетэнтныя дзеянні наменклатурнага беларускага ўрада і пракамуністычнай большасці Вярхоўнага Савета сталі прычынай рэзкага пагаршэння ў эканоміцы Беларусі, затармазілі рыначныя рэформы, прывялі да штучнага паліўна-энергетычнага голаду, да правалу намаганняў па стварэнню паўнацэннай фінансава-крэдытнай сістэмы. Урад не разумее сутнасці працэсаў, што адбываюцца ў эканоміцы, не адстойвае нацыянальныя інтарэсы дзяржавы, сваімі дзеяннямі і бяздзеяннем спрыяе карупцыі, умацаванню мафіёзнай сістэмы і не бачыць у гэтай сітуацыі ніякага разумнага выхаду са створанага тупіку, акрамя як набіраць замежныя крэдыты, здаваць нацыянальную маёмасць чужой краіне, гандляваць суверэнітэтам. Такі ўрад не можа і не павінен кіраваць дзяржавай.

Першачарговай задачай мы лічым ажыццяўленне адстаўкі Савета Міністраў і стварэнне часовага (да выбараў парламента) кааліцыйнага ўрада Беларусі. Мы лічым мэтазгодным абмеркаваць гэтае пытанне ў бліжэйшы час на канферэнцыі ўсіх некамуністычных і антыімперскіх сіл, якія ўсведамляюць каштоўнасць незалежнасці і свабоднага дзяржаўнага развіцця Беларусі.

**Народныя дэпутаты Беларусі: З.Пазьняк, С.Антончык, У.Заблоцкі, С.Навумчык, В.Аляміеў, П.Холад, А.Шут, І.Герасюк, Ю.Беленькі, Б.Гюнтар, А.Трусаў, В.Какоўка, Л.Дзейка, Л.Зданевіч, Г.Сямдзянава, І.Пырх, М.Маркевіч, М.Аксаміт, М.Крыжаноўскі, В.Малашка, Я.Цумараў.**

22 верасня 1993 г.

*г.Мінск.*

## ЗАЯВА

### выканкама Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ў сувязі з указам прэзідэнта Ельцына аб паэтапнай канстытуцыйнай рэформе

Выканкам ЦР БСДГ канстатуе, што апошнія ўказы прэзідэнта Б.Ельцына былі выкліканы канфрантацыйнымі паводзінамі ВС Расіі, які блакіраваў выхад з крызісу ўлады, і абумоўлены ў многім супярэчлівымі і недасканалымі палажэннямі існуючай Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі, прынятай яшчэ ў брэжнеўскі перыяд.

Мы выказваем спадзяванне, што ў кіраўніцтва і народа Расіі хопіць мудрасці і вытрымкі для цывілізаванага выйсця са становішча, якое склалася.

Мы звяртаем увагу грамадскасці і народных дэпутатаў Беларусі, што прапануемы да разгляду на сесіі Вярхоўнага Савета праект новай Канстытуцыі Беларусі ўтрымлівае хібы, уласцівыя дзеючай Канстытуцыі Расіі, якія здольны выклікаць штучнае абвастрэнне адносін паміж галінамі ўлады.

**Выканкам Цэнтральнай рады БСДГ.**

*23.09.93г.*

*Рэзананс*

## Не трэба ўцягваць творчыя супольнасці рэспублікі ў непрыстойныя палітычныя гульні!

22 верасня г.г. у сродках масавай інфармацыі змешчаны зварот грамадскіх рухаў, аб'яднанняў, фондаў і творчых саюзаў Беларусі да кіраўнікоў Расійскай Федэрацыі спадароў Ельцына, Хасбулатава, Чарнамырдзіна. Сярод тых, хто падпісаў гэты дакумент, ёсць і подпіс М.Яроменкі ад імя Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў. З'яўляючыся заснавальнікамі Канфедэрацыі і членамі яе вышэйшага органа — савета, вымушаны заявіць, што сп.Яроменка выступаў толькі ад с в а й г о імя, бо нашы творчыя саюзы ніколі не ўпаўнаважвалі яго падпісваць гэты зварот. Расцэньваем гэта як спробу ўцягнуць творчыя суполкі рэспублікі ў непрыстойныя палітычныя гульні па рэанімацыі камуністычнага СССР.

**А.ДУДАРАЎ — старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі; В.НІКІФАРАЎ — старшыня Саюза кінематаграфістаў Беларусі; Г.БУРАЛКІН — старшыня Саюза мастакоў Беларусі; А.ДЛАТОЎСКІ — старшыня Саюза дызайнераў Беларусі; В.ЛАБКО — старшыня Саюза фотамастакоў Беларусі; М.ДРЫНЕЎСКІ — старшыня Саюза музычных дзеячаў Беларусі; Я.САХУТА — старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі; А.НАВАХРОСТ — сакратар праўлення Саюза кампазітараў Беларусі.**

***Да ведама чытачоў:** Саюз пісьменнікаў рэспублікі ў Беларускую канфедэрацыю творчых саюзаў і культурных фондаў не ўваходзіць.*

## Мы нікога не ўпаўнаважвалі!..

Мы, журналісты "Народнай газеты", здзівіліся, калі пад зваротам, падпісаным прадстаўнікамі шэрагу грамадскіх арганізацый і партый, да кіраўнікоў дзяржаў, парламентаў і ўрадаў незалежных дзяржаў — былых рэспублік СССР убачылі сярод іншых і подпіс Л.Екеля — "ад Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь".

Адразу скажам, што наш калега і кіраўнік творчага саюза "трошкі перабраў". Ніхто не ўпаўнаважваў Л.Екеля падпісваць гэты дакумент ад імя ўсіх членаў саюза. Як нам вядома, ні рада, ні выканкам Саюза журналістаў гэтае пытанне не абмяркоўвалі. Зразумела, Л.Екель не раіўся і з намі, "простымі" членамі творчай арганізацыі.

Такім чынам, Л.Екель выказаў толькі сваю асабістую думку. Мы ж да гэтага звароту ніякага дачынення не маем, аб чым лічым неабходным паведаміць грамадскасці рэспублікі.

І ўвогуле, Саюз журналістаў — не палітычная, а творчая і прафесійная арганізацыя.

Лічым неабходным тэрмінова склікаць пашыранае пасяджэнне рады Саюза журналістаў для абмеркавання сітуацыі, якая склалася.

**Пярвічная арганізацыя Саюза журналістаў "Народнай газеты".**

*Колонка Павла Якубовича*

## Опять "сарынь на кичку", Руслан Имранович?

Гражданской войны в России быть не может — говоря высоким штилем, в стране нет антагонистических классов. В самом деле, за что воевать? За безбедную жизнь нескольких сотен народных депутатов с их приватизированными квартирами и "плацкартами"? За принципы? Но что общего между фамилией "Руцкой" и какими-то мало-мальскими принципами — после его клятв в "верности" президенту и слов "офицерской чести", которые Александр Владимирович как истинный хозяин своему слову многожды то давал, то возвращал обратно?! Воевать не за что, но марево кровавой пугачевщины всегда чуть-чуть витает над золотыми куполами кремлевских храмов. Пугачевщина, разинщина и политический авантюризм несдающейся партноменклатуры — вот те дьявольские дрожжи, которые продолжают разбухать на глазах встревоженного мира.

В ночь с четверга на пятницу пролилась кровь. Безвинно погибли офицер милиции и домохозяйка, случайно оказавшаяся близ окна своего дома, где ее поразила шальная пуля. По официальным сведениям из Москвы, убийство — дело рук тех, кого послал на штурм здания Главкомата СНГ назначенный бывшим Верховным Советом министром обороны генерал-полковник Ачалов. Вот он, один из первых "героев" сентября! Эту фамилию до сих пор с ужасом произносят в столицах соседних с нами стран Балтии — назначенный главным "пожарником" СССР, Ачалов наезжал то в Степанакерт, то в Ригу, то в Вильнюс. После этого программа "Вести" передавала леденящие душу подробности убийств и пожаров. В августе 1991-го звезда Ачалова закатилась. По всем данным, он должен был бы стать первым насельником "Матросской тишины", но влиятельные друзья по воздушно-десантным войскам — Грачев, Подколзин, Лебедь — на правах "спасителей России" спрятали своего бывшего командира в госпиталь, придумав ему диагноз "сотрясение мозга". Ачалов отлежался, часы стали показывать другое время, и вскоре Ачалов, оказавшийся в свите Хасбулатова, дал понять своим бывшим подчиненным, что он полон решимости сделать всем им не шутейное, а настоящее сотрясение мозгов. Эту личную и неприкрытую опасность для себя новая российская военная элита прекрасно понимает. Вот почему на телеэкранах и появился Грачев с несколько перекошенным лицом и пообещал, что если "армию разозлят", то она сметет всех и вся...

Будем надеяться, что дело до этого не дойдет, хотя прижатые к стенке Руцкой, Хасбулатов и остальные способны на все. Однако мне представляется, что более всего они способны на то, чтобы в самую последнюю секунду удариться, как Финист Ясный Сокол, оземь и согласиться на "почетный компромисс" в надежде на миролюбивый характер Бориса Николаевича... И в числе первых — готов держать пари! — среди них будет златоуст Бабурин, который в безумной отваге предложил ввести смертную казнь для тех, кто не любит Верховный Совет. Вот вам и душка, любимец дам бальзаковского возраста! Это ж надо — стрелять! Наверное, этот юрист думает, что больно может быть только другим, что он рожден для вынесения приговоров. Эх, Сергей Николаевич, красавец вы наш! Сколько таких вот, как вы, рафинированных интеллигентов, бесстрашных говорунов задирали в небо холеные бородки-эспаньолки, не успев даже ахнуть, как распаленные ими же "массы" выводили их "к стенке", "пускали в расход", "превращали в лагерную пыль"... Да мало ли иных красивых и звучных терминов знает наша многомятежная история!

Один мой знакомый говорил бывало: "В любом деле нужно начинать с главного. Остальные сами разбегутся". По-моему, сейчас у российского правительства задача состоит в том, чтобы выяснить, кто главный — бывший Верховный Совет, Конституционный суд, разные бонапарты или всевозможные маленькие советы, которые мутят воду и делают вид, что на Руси произошло что-то ужасное. А выясняется, что ничего особенного не произошло. Назначен срок новых выборов, в том числе и президента. Как выяснилось, Ельцин не хочет стать царем. Ну, так и доверьтесь, господа хорошие, тому самому излюбленному народу, который вы так славно защищаете последние годы от самих себя, дайте ему возможность избрать не пустомелей и лодырей, а тех, кто любит не себя в России, а Россию в себе.

У нас на Беларуси — безоблачное небо. Как всегда, наша судьба решается в Москве. Плохо это или хорошо, но это так. И потому меня несколько удивляет, что горячие ораторы из БНФ почему-то ограничиваются, на мой взгляд, лишь достаточно тривиальными обращениями в "Народную газету"... Так, панове, имеют моральное право вести себя датские или шведские интеллектуалы, для которых все происходящее в России — далекая экзотика. Более прагматичные деятели, в частности премьер-министр В.Кебич, уже сделали выводы и существенно скорректировали свои подходы к российским и иным проблемам. Вячеслав Францевич уже не считает Вискули ошибкой и уверен, что денонсировать беловежские соглашения незачем. Жизнь продолжается.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Гарачая тэма*

# А народ Расіі пакуль што маўчыць...

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

Жыццё ўносіць свае карэктывы ў запланаваныя і простымі людзьмі, і дзяржаўнымі дзеячамі мерапрыемствы. Да апошняга дня не было ўпэўненасці, што сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў краін — членаў СНД — адбудзецца 24 верасня. А тут яшчэ пачаліся вядомыя падзеі ў Маскве. Тым не менш раніцай 23 верасня самалёт з беларускай дзяржаўнай дэлегацыяй узяў курс... на Гродна. Так-так, і Станіслаў Шушкевіч, і Вячаслаў Кебіч не маглі не развітацца з народным дэпутатам Беларусі, старшынёй Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў Дзмітрыем Арцыменем, які загінуў ад кулі невядомага забойцы. Якімі б важнымі ні былі дзяржаўныя справы, але чалавечыя ўзаемаадносіны паміж палітыкамі павінны заставацца.

А ў Маскве беларускую дэлегацыю сустракаў віцэ-прэм'ер Расійскай Федэрацыі Юрый Яраў. Адразу ж у аэрапорце Станіслаў Шушкевіч, адказваючы на пытанні журналістаў, выказаў упэўненасць у тым, што сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў краін СНД будзе плённай. Катэгарычным быў яго адказ і на пытанне аб магчымым уступленні Беларусі ў склад Расіі:

— У нас многа сатрапаў, якія не здольны займацца дзяржаўнай дзейнасцю, не здольны кіраваць дзяржавай. І яны хочуць здаць усе пазіцыі невядома каму. Я лічу, што нядздольныя павінны адысці, а дзяржава павінна застацца.

Станіслаў Шушкевіч выказаў яшчэ раз свае адносіны і да падзей у Маскве:

— Я ўжо многа разоў казаў, што я гарачы прыхільнік прэзідэнта Ельцына і праводзімых ім рэформ. Я бачу, што сусветная грамадская думка, юрысты вышэйшай кваліфікацыі, якія кансультуюць кіраўнікоў найвялікшых дзяржаў, лічаць, што крокі прэзідэнта Расіі правільныя, абгрунтаваныя. І я лічу: трэба падтрымаць дзеянні, накіраваныя на карысць расіян.

Беларуская дэлегацыя накіроўваецца ў Прэзідэнт-атэль. Мы едзем па маскоўскіх вуліцах, нідзе не бачна ніякага супрацьстаяння. Мноства машын, тысячы і тысячы прахожых, працуюць кіёскі і магазіны. Такое адчуванне, што няма нідзе ніякай барацьбы за ўладу, тым болей "двух"прэзідэнтаў і "двух" міністраў абароны. Але прыязджаем на метро на станцыю "Барыкадная" (назва якая сімвалічная!) і адразу заўважаем, што аказаліся недалёка ад будынка Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі. На сценах вісяць лістоўкі, тэксты ўказаў "прэзідэнта" Руцкога, загады "міністра абароны Расіі" Ачалава. Чытаем загад N 1: "У адпаведнасці з указам выконваючага абавязкі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Аляксандра Руцкога прыступаю да выканання абавязкаў міністра абароны. Загад давесці да асабовага складу ўсіх часцей". Адразу ж уяўляем твары маладзенькіх салдат, якія атрымаюць адначасова два загады ад двух міністраў абароны. Што адбудзецца тады?

А каля "Белага дома" мітынг. Праходзім невялічкую барыкаду (нават барыкадай сорам назваць некалькі скрынь і жэрдак, якімі перагароджана дарога). З балкона "Белага дома" нясуцца словы Ільі Канстанцінава: "Мы будзем стаяць тут да канца! Перамога будзе за намі. Ура!"

Пасля яго выступае старшыня Саюза афіцэраў СССР Станіслаў Церахаў, і ўжо іншая інтанацыя гучыць:

— Чаму нас сабралася тут так мала? Гэта ж наш апошні бой. Калі сёння мы не возьмем уладу, заўтра будзе позна. Або перамога, або смерць! Мы будзем стаяць да апошняга!

Пяць ці шэсць тысяч удзельнікаў мітынгу крычаць:

— Перамога! Перамога!

На трыбуне Руслан Хасбулатаў:

— Вы прыйшлі сюды абараняць не Вярхоўны Савет, вы прыйшлі абараняць сябе, сваю будучыню! Падтрымаўшы Саветы, вы выратуеце Расію!

Натоўп скандзіруе.

— Уся ўлада Саветам!

Руслан Хасбулатаў паведамляе, што ў дзесяць гадзін пачнецца нечарговы надзвычайны X з'езд народных дэпутатаў Расіі. Безумоўна, мы робім намаганні, каб папасці на гэты з'езд. Дапамагае зямляк — намеснік начальніка аховы "Белага дома" падпалкоўнік міліцыі Жалезнякоў. Куды толькі не закінуў лёс нашых браткоў-беларусаў!

Мы чакаем, пакуль ахова выпіша пропускі, а побач праходзяць людзі з аўтаматамі. Два маладыя хлопцы ў паўваеннай форме нясуць некалькі кулямётаў, загорнутых у дзяругу. Від у іх бравы — байцы! Міліцыянеры не звяртаюць на іх ніякай увагі, хлопцы знікаюць у цемры за будынкам Вярхоўнага Савета. Куды яны пайшлі?

Дваццаць дзве гадзіны. Пачынаецца распушчаны ўказам прэзідэнта Расіі Б.Ельцына з'езд народных дэпутатаў. Хасбулатаў прапаноўвае заняць свае месцы на сцэне Руцкому і Зоркіну. Тыя падымаюцца і садзяцца ў падрыхтаваныя для іх крэслы. Мы з нецярпеннем чакаем: што ж будзе далей? Маскоўскія журналісты, якія працуюць у будынку Вярхоўнага Савета, гадзіну назад выказалі меркаванні, што дэпутаты ўжо гатовы капітуляваць. Аднак пачынаецца работа з'езда, і мы бачым: ні аб якой капітуляцыі тут гаворкі не будзе, дэпутаты па-ранейшаму спадзяюцца на перамогу, дзеля яе прыйшлося маніпуляваць і з кворумам. Раней з'езд двойчы не мог пачацца, бо не хапала неабходнай колькасці дэпутатаў. Тады Вярхоўны Савет прыняў рашэнне пазбавіць паўнамоцтваў тых дэпутатаў, якія перайшлі на бок выканаўчай улады. І атрымалася, што 638 дэпутатаў, якія прыехалі на з'езд, дастаткова, каб пачаць работу.

Даклад Хасбулатава. Зноў абвінавачванні выканаўчай улады, якія мы ўжо не раз чулі. Выступленне Аляксандра Руцкога. Таксама абвінавачванні ў бок Ельцына і яго прыхільнікаў, запэўніванне дэпутатаў, што ён грудзьмі стане на абарону Канстытуцыі і расійскіх законаў.

Мы сядзелі ў зале і думалі: няўжо гэтыя людзі не ведаюць, што адбываецца за сценамі будынка Вярхоўнага Савета? Абсалютную большасць расіян іх лёс ні кропелькі не хвалюе! Гэта мы самі бачылі ў Маскве, а аб тым, што адбываецца ў іншых рэгіёнах, паведамляюць сусветныя інфармацыйныя агенцтвы. І тыя ж агенцтвы сведчаць: амаль усе кіраўнікі замежных дзяржаў падтрымалі дзеянні Ельцына. Ды кіраўнікі дзяржаў СНД прыехалі ў Маскву не да Хасбулатава з Руцкім, а да Ельцына з Чарнамырдзіным. І гэты факт таксама пра многае гаворыць.

Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД пачалася ўчора ў дванаццаць гадзін. Якія рашэнні будуць прыняты, пакуль што невядома. Але ніхто не сумняваецца, што па першаму пункту парадку дня рашэнне будзе прынята станоўчае і эканамічны саюз дзяржаў — членаў СНД будзе створаны. Зразумела, што на гэтай сустрэчы будуць абмеркаваны і падзеі ў Маскве, і, хутчэй за ўсё, кіраўнікі дзяржаў СНД афіцыйна выкажуцца ў падтрымку Ельцына.

...А кроў у Маскве ўжо пралілася. Невядомыя, узброеныя аўтаматычнай зброяй напалі на штаб Аб'яднаных узброеных сіл СНД. Загінулі міліцыянер і простая жанчына. Гэта адбылося ноччу. А яшчэ вечарам я сам бачыў, як на станцыі метро "Барыкадная" нейкі мужчына дрыжачымі рукамі вешаў лістоўку са словамі "Штаб Аб'яднаных узброеных сіл СНД узяты. УРА!" Людзі праходзілі міма або моўчкі на гэта глядзелі. Ніхто не падтрымліваў яго, ніхто не выступаў супраць. І зброя праз некалькі гадзін загаварыла. Можа, гэта былі тыя самыя кулямёты, што панеслі двое хлопцаў за будынак Вярхоўнага Савета?

Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД працягваецца. Супрацьстаянне Ельцына і яго ворагаў не скончылася. Народ Расіі пакуль што маўчыць...

**Масква. 24 верасня 1993 года.**
**13 гадзін.**

*Выстаўкі*




В Минске на проспекте Машерова, 14 продолжает работу национальная китайская торговая выставка. На ней широко представлены электроника, бытовая техника, медикаменты, товары народного потребления, изделия прикладного искусства, продукты питания и многое другое.

Прямо на выставке завязываются деловые контакты, заключаются договора.

Есть там что посмотреть!

И плюс ко всему — традиционное китайское гостеприимство, душевность хозяев выставки.

Сходите на Машерова, 14 — это станет событием вашей жизни.

Выставку посетил Председатель Верховного Совета Беларуси Станислав Шушкевич.

**Виктория БЕРЕЗОВСКАЯ.**
**Фото Сергея ГРИЦА.**

*Добрыя весткі*

## "Усходні" не здаецца

**На фоне агульнага зніжэння прадуктыўнасці і пагалоўя жывёлы свінагадоўчы комплекс "Усходні" Баранавіцкага раёна не толькі не здае сваіх пазіцый, але і нарошчвае абароты. З пачатку года рост валавога прыбаўлення ў вазе жывёлы на адкорме тут склаў 40 працэнтаў, і ў цэлым плануецца, што выхад свініны тут дасягне пяці тысяч тон. Гэта на 1200 тон больш, чым у мінулым годзе.**

Вядома, мясцовым жывёлаводам прыходзіцца няпроста, сабекошт іх прадукцыі пастаянна расце — цэны дыктуюць паўзучыя ўверх затраты на камбікармы і энергарэсурсы. Тым больш што многія забеспячэнскія функцыі прыйшлося аддаць на водкуп прадпрымальнікам, якія накручваюць сабе немалыя барышы на перапродажы збожжа і камбікармоў. Але іншага выйсця сёння тут не бачаць — дзяржава не можа забяспечыць усім неабходным сваё ж прадпрыемства.

І ўсё ж работнікі свінакомплексу не трацяць надзеі на лепшыя часы. Таму за кошт павелічэння пагалоўя маладняку і яго прыбаўлення ў вазе яны ўжо зрабілі сур'ёзны задзел для расшырэння вытворчасці ў наступным годзе.

**Іван КУКСА,**
**Белінфарм.**

*Баранавічы.*

*Будні пагранічнікаў*

## Няправеднае багацце прахам пойдзе

**Так вучыць народная мудрасць. Але, бадай, не ўдумваюцца ў яе сэнс аматары пажывіцца незаконным шляхам, якія накіроўваюцца за кардон. І тады зразумець ісціну гэтых слоў ім дапамагаюць беларускія пагранічнікі. Яны, як і належыць, пакідаюць махінатараў ля разбітых начовак.**

Расстаўся са сваім таварам жыхар Вільнюса нехта Алексас Барысавец, які на аўтамашыне "Волга" спрабаваў перавезці каля дзвюх тысяч пачак запалак, 20 кілаграмаў кісялю, 15 кілаграмаў прыпраў, 6 літраў смятаны і іншыя прадукты. З пустымі рукамі паехалі на "Жыгулях" у Літву браты Сцяпанавы, якія прыхапілі з сабой 24 кілаграмы дзіцячага харчавання і 40 літраў смятаны. Супрацоўнікі Смаргонскага пагранатрада парушылі планы жыхароў Беларусі Віктара Гладуна і Яўгена Гядрэвіча, якія спрабавалі набіць сваю кішэню шляхам продажу ў суседняй дзяржаве 430 кілаграмаў лісічак.

## Безгаспадарны тавар

**знойдзены ў кустах непадалёку ад пункта пропуску "Брузгі", што на Гродзеншчыне. Чатыры ўмяшчальныя сумкі былі набіты блокамі імпартных цыгарэт на 2 мільёны 180 тысяч рублёў.**

Пакуль іх уладальнік шукаў шляхі незаконнай пераправкі сваіх каштоўнасцей у Польшчу, пагранічнікі знайшлі для іх больш прыстойнае месца.

Не аказалася побач і гаспадара 300 кілаграмаў медзі, схаваных у столевым перакрыцці аднаго з вагонаў поезда Масква — Калінінград.

## Багаты "ўлоў"

**аказаўся ў беларускіх пагранічнікаў у апошнім месяцы лета. Як паведамілі ў прэс-цэнтры пагранвойск рэспублікі, у жніўні затрымана больш як 250 парушальнікаў дзяржаўнай граніцы. Каля 80 працэнтаў з іх спрабавалі незаконна трапіць праз Беларусь у краіны Захаду.**

Амаль на 15 мільёнаў рублёў не дайшоў да сваіх адрасатаў кантрабандны тавар. Спынена спроба даставіць да нас 18 адзінак агнястрэльнай зброі.

Статыстыка засведчыла і ўзрослую нагрузку ў пагранатрадаў. Толькі за апошні месяц ім прыйшлося прапусціць праз граніцу звыш двух мільёнаў чалавек і 295 тысяч транспартных сродкаў.

**Белінфарм.**

# Камо грядеши?

## Властелин Римской империи Нерон сжег столицу своего государства — город Рим.

**Станислав ГУСАК,**
**заместитель председателя ОДПБ**

Каждый раз, когда республика срывается в очередной экономический штопор, кажется, что это последнее испытание и хуже быть уже не может. Но затем все повторяется снова и снова. И если у этой пропасти нет дна, то есть предел хозяйственному развалу, за которым существование независимого государства становится сомнительным.

Чего же мы достигли за время пребывания у власти ныне здравствующих составов Верховного Совета и правительства Беларуси? Начнем с морального и нравственного состояния общества. Рост преступности, спекуляция и экономическое мошенничество стали самыми заметными "достижениями" в культурной деградации. Эти метаморфозы не случайны, они были обеспечены тем экономическим порядком и правовым нигилизмом, которые активно насаждались власть имущими.

Сегодня значительная часть общества вовлечена в аморальные и криминальные дела. Тащится все: от половой тряпки, гвоздей и молотка с рабочего места до миллионов долларов из государственной казны. Организованная преступность не только контролирует розничную и оптовую торговлю — она проникла и в финорганы, и в банки. Неворующий, нормально работающий человек чувствует себя в этой вакханалии, как священник в публичном доме.

Общество, потерявшее мораль и нравственность, не способно не только к созиданию, возрождению и развитию, но даже к сохранению и защите своего государства, своей независимости, своей культуры.

Ни один из принятых законов или временных положений по вопросам экономики не анализировался в плоскости морального здоровья общества, равенства прав и достоинства каждого гражданина республики.

Погрязшие в махинациях члены Верховного Совета и правительства принимают закон об отмене смертной казни за экономические преступления. Как говорится, соломку подстелили. Разложение общества стимулируется Верховным Советом, а правоохранительные органы парализованы отсутствием соответствующих законов, видя весь этот устроенный властью бедлам. Нероново царство, да и только!

Вместе с тем экономические реформы не начинались ни в сельском хозяйстве, ни в промышленности. Отсутствует элементарная экономическая программа. Выступления в средствах массовой информации Председателя Совмина товарища Кебича и работников его аппарата скорее напоминают программы с участием толкователей снов и астрологических прогнозов, чем доклады государственных мужей, знающих, что делать. И если в целом катастрофическое состояние экономики и политический паралич власти известны, то по некоторым министерствам создается иллюзия успехов. Респектабельным выглядит МИД. Открыты десятки посольств с послами и экономическими советниками. Штаты в основном укомплектованы бывшими партийными работниками.

Важной задачей в становлении республики является развитие внешней торговли. И именно этой цели должен служить МИД, а не только тому, чтобы раз в пять лет передать заявление или вручить ноту. Однако вместо увеличения сбыта белорусских товаров за рубежом мы имеем значительное сокращение экспорта. По некоторым странам экспорт продукции снизился в пять раз. В то же время бизнесмены из Пакистана, Индии и других стран утверждают, что 60—80% продукции Беларуси может найти сбыт на их рынках. Так чем же занят министр иностранных дел товарищ Кравченко? Оказывается — системой коллективной безопасности. Торговать национальными интересами и достоянием намного проще. Республика Беларусь и без того содержит сорокатысячное российское войско плюс ядерное оружие. Но правительству и этого мало, того и гляди, что продадут газопроводы, нефтепроводы и нефтеперерабатывающие заводы. Если это произойдет, а Россия постоянно пытается подмять их под себя, то становление национальной экономики республики отодвинется на несколько десятков лет.

Неспособность нынешнего состава Верховного Совета и правительства республики справиться с бременем власти стала очевидной. А номенклатурно-коммунистическая депутатская группа "Беларусь" готова вместо бело-красно-белого поднять предательский белый флаг. Активист этой группы товарищ Лукашенко мечтает провести совместное заседание двух Верховных Советов — Беларуси и России. Невозможно жить рабу вне колонии, так и тянет стать кремлевской подстилкой. Или думает, что "поладит, если рядом сядет"?

Экономическая ситуация в России столь же тяжела, как и в Беларуси, и ожидать каких-то экономических подачек со стороны России наивно. А между тем бывший "старший брат", используя свою монополию на поставку сырья и топлива, проводит политику, которая по содержанию являет собой нечто среднее между экономической блокадой, шантажом и просто блефом. С азиатским коварством в период уборочной кампании прекращается подача нефти, газа под предлогом невыплаченных долгов, с которыми еще ох как надо разобраться! Взаиморасчеты по поставкам имеют одностороннюю выгоду для России. Из-за незащищенности от российского монополизма наши товары уходят в Россию по цене в 2—3 раза ниже в сравнении с мировой практикой взаиморасчетов по поставкам. Цена одного литра бензина на рынке Беларуси приблизилась к цене одного килограмма сливочного масла. Унизительные взаиморасчеты с Россией очень напоминают видоизмененную дань, которую славяне платили Золотой Орде. Покорившие Орду сами стали ордою, унаследовав ее худшие качества. Да и по сути новая "Орда" мало в чем изменилась. Захватнические войны времен Ивана IV, нынешние на Кавказе, в Азии и Крыму являются логическим продолжением походов хана Батыя. Камо грядеши, товарищи министры и активисты?

После объявления независимости бывших республик СССР стратегической задачей Москвы стало возвращение утраченных колоний. Методы используются самые разные: внутренний сепаратизм, межнациональные конфликты и главное — экономика.

Рубль не является конвертируемой валютой и еще не скоро сможет ею стать. Введя в масштабах рублевой зоны чулочно-бюстгальтерный обменный курс рубля, задерживая выплаты за полученную продукцию поставщикам по ранее сложившимся ценам и одновременно взвинчивая цены на сырье и топливо до уровня мировых по тому же галантерейному курсу, Россия обобрала соседей так, как хотела. Беларусь на том потеряла сотни миллиардов, а может, и триллионов рублей. Таким механизмом взаиморасчетов ограблена Украина, а вот теперь и Беларусь поставлена в те же условия.

Расписавшись в собственном бессилии, правительство и депутатская группа "Беларусь" предлагает нам идти обратно в коммуналку "к "старшему брату". Неужели там будет лучше, чем в собственном доме?

Пока лишь страны Прибалтики смогли избежать экономического разбоя России. Это им удалось за счет своевременно проведенной реформы в финансовой и кредитно-денежной системе, приватизации, активного расширения внешней торговли и защиты рынка от монополизма. Прибалтийские страны смогли организовать поставку сырья и топлива из других стран.

Решение этой проблемы для Беларуси было предложено на Международной конференции по выходу из топливно-энергетического кризиса стран Балто-Черноморского региона. Однако правительство никаких реальных шагов в этом направлении не предприняло. Ибо задачи, которые оно решает, обратные поставленным.

О структурной перестройке промышленности сказано достаточно много, но и здесь работа не сдвинулась с места. Не стоит ожидать эффективной работы от экономики, которая создавалась в интересах империи без всякой привязки к сырьевой базе, национальным интересам и традициям Беларуси. На что же рассчитывает правительство? На то, что выпотрошенное чиновничеством хозяйство в конце концов будет приватизировано или передано трудовым коллективам и весь этот груз вновь ляжет на плечи граждан республики? Демократические силы подготовили свои идеи и предложения по структурной перестройке экономики и повышению ее эффективности и передали материалы в экономический институт при Госплане. Но скорее всего, что и это будет похоронено, как предложения по выходу из топливно-энергетического кризиса.

Терпелив и податлив народ Беларуси, но до каких пор? Пока удается держать его в узде. В малых и неорганизованных коллективах — чувством страха перед безработицей, в больших и сплоченных — коврижкой в виде высокой зарплаты. За одну и ту же работу на разных предприятиях можно получить от 20 до 220 тыс.рублей.

Апофеозом сил реакции стал так называемый Конгресс народа Беларуси. В почетном президиуме восседали апологеты новой "Орды" — Бабурин и Стерлигов. Дома эти деятели порядок уже "навели" и решили взяться за Беларусь. У нас ведь еще не льется кровь и танки дружественного государства не лязгают гусеницами по проспекту Скорины. Представляя непосредственную власть или тех, кто сегодня у власти, Гайдукевич и члены депутатской группы "Беларусь" жаловались на развал экономики и плохую жизнь, виня в том демократов, которых лишь 30 человек в Верховном Совете и ни одного в правительстве. Демагогией и двойной моралью были пронизаны выступления лицедеев. Для кого эта ложь?

Нерон сжег Рим и обвинил в том христиан, но был убит своими подданными. Нынешние власти пытаются зажечь республику со всех сторон и ответственность столкнуть на демократов...

Камо грядеши, товарищи нероны?

*Рэпарцёр даведаўся*

## Брандэнбург глядзіць на нас з надзеяй

**У Германіі адбылася сустрэча прадстаўнікоў Маладзёжнай палаты Беларусі з іх калегамі з Брандэнбурга — кіраўніцтвам адной з самых багатых і ўплывовых маладзёжных палат свету.**

На думку прэзідэнта Маладзёжнай палаты Беларусі Рыгора Бальдзюсава, у час перагавораў нямецкі бок праявіў вялікую зацікаўленасць у супрацоўніцтве з нашай рэспублікай. Пасля ўз'яднання Германіі прадпрыемствамі былой ГДР страчаны рынак збыту сваёй прадукцыі. Таму нават для самых буйных і некалі вядомых фірм усходніх зямель настaлі не лепшыя часы. Вытворцы тавараў шукаюць любую магчымасць для аднаўлення кантактаў з рэспублікамі былога Саюза, куды яшчэ да нядаўняга часу ішла прадукцыя гэтых прадпрыемстваў.

У час сустрэчы былі вызначаны шляхі супрацоўніцтва дзвюх палат, абмеркаваны пытанні абмену прадстаўнікамі, а таксама заключаны дагаворы з нямецкімі прадпрыемствамі на пастаўку прадукцыі на беларускі рынак.

**Наталля НЕВІДОМАЯ,**
**Белінфарм.**

*г.Мінск.*





*Факт*

## Еще один союз?

**Если до нового года Верховный Совет республики не ратифицирует соглашение о сотрудничестве Беларуси с Россией, шесть соседних областей — Брянская, Смоленская, Витебская, Гомельская, Могилевская и Черниговская — создадут свой таможенный союз.**

Планируется, что союз будет содействовать свободному передвижению товаров и людей через границы этих территорий. Об этом заявил на пресс-конференции председатель Могилевского областного Совета народных депутатов Николай Гринев, вернувшийся с празднования 50-летия освобождения Брянска от гитлеровских захватчиков.

**Николай КОМЛЕВ.**

*Ці чулі?*

## І турмы цяпер у дэфіцыце

**Дружна выступілі мясцовыя ўлады супраць размяшчэння турмы на Пружаншчыне. Паводле звестак, якія трапілі ў мясцовы друк, тут — на базе трох былых ваенных гарадкоў — плануецца адкрыць папраўчыя калоніі. У раённых жа ўлад наконт гэтага свае віды, ды і мясцовыя жыхары баяцца абвастрэння крымінагеннай абстаноўкі.**

Аднак, як лічыць начальнік аддзела па выкананню пакаранняў УУС аблвыканкама Пётр Якімук, гэта прымітыўна-абывацельскі пункт гледжання. Адкрыццё турмы зусім не азначае, што зняволеныя будуць бегаць па суседніх вёсках і ўчыняць пагромы. Напрыклад, у Івацэвіцкім раёне размешчана даволі вялікая калонія, адкрываецца яшчэ адна, але ўзровень злачыннасці там не вышэйшы, чым у іншых раёнах рэспублікі. Іншая справа, што былыя гарадкі ў Ружанах і Шарашове, на думку Пятра Лявонцьевіча, яго службе не падыходзяць. Там няма жылля для персаналу, іншых спецыфічных умоў, неабходных для такіх устаноў. А вось гарадок каля вёскі Куплі цалкам можна было б выкарыстаць пад папраўчую калонію.

— Відавочны і той факт, што без адкрыцця новых турмаў у рэспубліцы сёння ніяк не абысціся, — гаворыць Пётр Якімук. — Расія перадала ўжо Беларусі каля дзесяці тысяч зняволеных, чакаецца прыбыццё яшчэ некалькіх тысяч. Ды і тыя нашы суграмадзяне, якія асуджаюцца цяпер, павінны адбыць пакаранне па закону. Іх нам ніхто не прысылае з іншых галактык, таму ў дзеяннях мясцовых улад хацелася б бачыць больш разважнага сэнсу.

**Белінфарм.**

*г.Брэст.*

*А что на Витебщине?*

## Героев оправдывает фамилию

**По-геройски сражается с браконьерами молодой инспектор полоцкой рыбоохраны Андрей Героев.**

На днях он задержал с электроустановкой на озере Невежда двух жителей Витебска и одного полочанина. Привести в действие свою коварную снасть они не успели. На этом же озере Андрей предупредил подобное преступление, задуманное жителями Новополоцка: экскаваторщиком и двумя... учителями средней школы. А вот еще тройка местных любителей ухи с помощью электроустановки без груза натаскала из реки Полоты аж 35 килограммов рыбы. Взяли бы и больше, да Героев вмешался.

Всего с начала года рыбинспекторы Витебской области задержали 40 браконьеров, изъяли около 50 неводов, более 700 сетей, почти 400 других орудий незаконного лова, в том числе и электроустановок. Рыбаки-"разбойники" оштрафованы, некоторые приговорены к исправительным работам.

## Русская ветвь белорусского древа

**Республиканским союзом русскоязычных писателей намерена стать "Полоцкая ветвь", что и предусмотрено уставом этого литературного объединения, зарегистрированного в древнем городе.**

Цель новой творческой организации — не столько конкуренция с официальным СП, сколько сплочение всех литераторов Беларуси, пишущих на русском языке, оказание им материальной помощи.

## "А все-таки он будет вертеться!"

**Идею, напоминающую о вечном двигателе, выносил к пенсионному возрасту бывший вагранщик Витебского станкостроительного завода имени Кирова Николай Старостин.**

В отличие от "перпетуум мобиле" в его известных по школьным учебникам вариантах мотор Старостина имеет магнитный источник энергии. Более подробно самодеятельный изобретатель о своем замысле не рассказывает: боится, что какой-нибудь технически грамотный собеседник "сопрет" принцип конструкции. Старостин хочет сам изготовить и запустить опытный образец. Значит, нужны деньги, а вот этого "вечного двигателя" у Николая Петровича как раз и нет. Остается рассчитывать, что эту заметку прочитает любознательный миллионер. К тому же — доверчивый...

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

*Крымінал і мастацтва*

## Месца ікон — у храмах і музеях

**Высокамастацкімі і унікальнымі іконамі XVI—XIX стагоддзяў папоўніўся адзіны ў рэспубліцы Брэсцкі музей выратаваных каштоўнасцей. Упершыню перадачу цэлай калекцыі арганізавала мясцовае ўпраўленне КДБ, следчыя якога вялі крымінальную справу, узбуджаную супраць жыхара Малдовы Лазара Берона. Апошні спрабаваў вывезці 6 студзеня гэтага года іканапісныя рарытэты ў поездзе Масква—Берлін—Парыж пад выглядам асабістых рэчаў. Пры гэтым прыкрыццём служыў дыпламатычны пашпарт, выдадзены яму ў бытнасць дэпутатам Малдовы. Аднак у выніку сумесных дзеянняў чэкістаў і супрацоўнікаў пагранічных службаў, кантрабанда была затрымана.**

Як падкрэсліў старшы следчы па асабліва важных справах следчага аддзела УКДБ Уладзімір Лясняк, на жаль, апетыты дзялкоў ад мастацтва растуць. У гэтым годзе толькі чэкістам прыйшлося расследаваць некалькі спраў, што датычацца спроб незаконнага вывазу за мяжу буйных партый высокамастацкіх прадметаў даўніны і мастацтва. Толькі што завершана расследаванне яшчэ адной крымінальнай справы, узбуджанай супраць жыхара Цверы, які меў намер падпольна вывезці цэлую калекцыю самых розных узнагарод. Сярод больш чым паўтысячы ордэнаў і медалёў — Зорка Героя Сацыялістычнай Працы, ордэны Леніна, Суворава, Кутузава, Чырвонай Зоркі і многія іншыя.

Што ж датычыцца кошту перададзеных брэсцкаму музею 28 ікон, то ў цэнах студзеня ён склаў амаль што сем з палавінай мільёнаў рублёў. Але, як адзначыла загадчыца мастацкага аддзела абласнога краязнаўчага музея Ірына Тарыма, якая прыняла гэты дар, мастацкую каштоўнасць гэтых ікон цяжка супаставіць з нейкай грашовай сумай. Большасць з іх не проста каштоўныя, але і вельмі рэдкія сярод тых, што ёсць у шматтысячнай калекцыі музея, якая стваралася на працягу апошніх дваццаці гадоў.

**Белінфарм.**

*г.Брэст.*

